# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
405 Belmont Avenue, Brooklyn 7, N. Y., U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ | ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ У З. Г. А. | BYELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE USA | 10 ЦЭНТАЎ

Год III. № 11 (17) | 20 верасьня 1952 г. | NEW YORK, N. Y., U. S .A. | September 20, 1952 | Vol. III. № 11 (17)


## Небясьпечныя »зьмены« у Саветах

Дэкрэт ЦК камуністычнае партыі, падпісаны самым Сталінам, адносна 19-га зьезду ВКП(б), што мае адбыцца 5-га кастрычніка ў Маскве, выклікаў голаснае рэха ў дэмакратычным сьвеце. А таму, што ў гэтым дэкрэце, як мы падавалі ўжо ў мінулым нумары нашае газэты, гаворыцца аб роспуску Палітбюра, — дэмакратычныя палітыкі й журналістыя мяркуюць, што ў Саветах неўзабаве шмат што зьменіцца як у нутраной, так і вонкавай палітыцы. Аднак, кажнаму, хто хоць крыху знае савецкую запраўднасьць, яснае, што само савецкае жыхарства, навучнае гаркім дазнаньнем, не чакае ад новых „пераменаў" ані палёгкаў у сваім жыцьці, ані нічога добрага наагул. Няма чаго спадзявацца й дэмакратычнаму сьвету.

Наадварот, падобныя бальшавіцкія перамены формаў сваіх таямнічых органаў, падобныя „зьмены" савецкае палітыкі, гавораць толькі аб нейкіх новых небясьпечных для рэшты сьвету плянах бальшавікоў, якія неабходна замаскаваць, як на нутраным, так і на вонкавым фронце.

Якія-ж гэта могуць быць пляны? Ніхто не сумляваецца, апрача, хіба, наіўных заходніх палітыкаў, што бальшавікі хочуць якнайхутчэй апанаваць увесь сьвет і разумеюць, што сіла іхная ня толькі ў собскіх асягненьнях, але і ў слабасьці дэмакратычнага сьвету, у ягонай дэзарыентацыі. Палітбюро, як усім ведамы дэспатычны орган бальшавікоў, наганяе жах ня толькі на сваіх устрашаных грамадзянаў, але й на замежных дэмакратаў, якія аніяк не патрапяць уцяміць, што можа існаваць, і то гады, нязьменны кіравецкі орган, якога ніхто не перавыбірае.

Дык чаму-ж не пагуляць у „дэмакратыю", не пайсьці на „зьмены"? Мо' сьвет і паверыць, мо' знойдуцца новыя Джонсоны, Воллэсы, Бэвены ды ім падобныя і можна будзе ізноў арганізаваць новыя „народныя фронты" ў дапамагу пятым калёнам камунізму?

Плян гэты даволі спрытны і асабліва для сьвету небясьпечны, бяручы на ўвагу сучасныя паважныя падзеі ў сьвеце. Бо змаганьне ідзе сяньня ня толькі ў Карэі, Індакітаі, Малаях і вось-вось загарыцца на межах Індыі, але можна чакаць і іншых, ня менш важкіх здарэньняў. Пасьля ад'езду камісіі савецкіх маршалаў із Жукавым на чале з Будапэшту, — з Чэхіі ды Славаччыны вывозяцца тысячы сем'яў. На межах Славаччыны з Вугоршчынай высяляюцца цэлыя вёскі. Асабліва цікавае тое, што, побач із гэтым, часта-густа „ліквідуюцца" й мясцовыя камуністычныя „правадыры", а на іхнае месца прысылаюцца новыя „начальнікі" з... Масквы. А ў распараджаньнях органаў бясьпекі адкрыта гаворыцца аб тым, што неабходна узьняць прадукцыйнасьць прамысловасьці... шляхам прымусовае працы!

Дык ці ня гэтыя новыя гвалты бальшавікоў над безбаронным жыхарствам і ёсьць тымі адзінымі „зьменамі", на якія здольныя бальшавікі й якіх так чакаюць энтузыястыя „новае" палітыкі бальшавікоў у сувязі із плянаванымі ў Маскве сэнсацыямі?

Хто-ж ведае? Пэўнае адно — што кажная „зьмена" бальшавіцкае палітыкі вельмі небясьпечная й для падсавецкіх людзей, і для ўсяго сьвету наагул.

—o—

### ПАДЗЕІ У КАРЭІ

Нарэшце й тыя, што шчыра верылі ў хуткае замірэньне ў Карэі пачынаюць разумець, што перамовы ў гэтай справе могуць зацягнуцца на ўсю зіму. Тымчасам, бальшавікі ня спяць у шапку, і кінулі кагадзе ў бай вялікую колькасьць сваіх самалётаў. Аб пашырэньні паветранага змаганьня гаворыць ужо тое, што за мінулыя тыдні саюзныя зьнішчальнікі зьбілі 68 савецкіх МІГ-аў, а яшчэ больш пашкодзілі. Апрача таго, аднавіліся баі блізу на ўсім фроньце, прыймаючы часта вельмі жорсткі характар, аж да атакаў на штыхі ўключна. Некаторыя апорныя пункты па колькі раз пераходзяць з рук у рукі. Саюзнае камандваньне падае, што за мінулыя два тыдні чырвоныя мелі звыш 10.000 забітых і безьліч раненых.

### МАНЭУРЫ ФЛЁТУ НЭЙТО

У Паўночным і Балтыцкім морах пачаліся вялікія манэўры злучанага флёту НЭЙТО. У манэўрах бяруць удзел 160 караблёў, сотні самалётаў і 35-цёхтысячная армія ЗША, Канады, Францыі, Ангельшчыны, Нарвэгіі, Даніі, Бельгіі ды Галяндыі. Цікава, што ў манэўрах удзельнічаюць і караблі Новае Зэляндыі, якая па праўдзе не належыць да НЭЙТО. Камандуе манэўрамі ген. Рыджвэй, а флётам — адмірал Мэк-Кормік. У сувязі із гэтымі манэўрамі бальшавікі страшэнна усхваляваліся. Маскоўскае радыё называе іх — „спробай наважанага нападу на СССР з Балтыцкага мора".

### ІРАН

Тут усьцяж не спыняюцца дэманстрацыі камуністых. Ёсьць забітыя й раненыя. Магчыма ў сувязі з гэтым, прэм'ер Масадык ізноў пагадзіўся на перамовы у справе заладжаньня нафтавага непаразуменьня з Ангельшчынай.

### УСХОДНЯЯ НЯМЕЧЧЫНА

Бальшавікі маюць тутка 22 дывізіі войска. Апошнім часам яны із пасьпехам матарызуюцца, папаўняюцца танкамі, артылерыяй, асабліва зэнітнай, грузавікамі ды іншымі машынамі. Ужо, быццам, зматарызаваныя 18 дывізыяў. Апрача таго, увосені маюць быць зматарызаваныя й 4 дывізіі „народнай паліцыі".

### ІНДЫЯ

Невядома, ці яшчэ ад імя Палітбюра, ці ўжо ад імя будучага „Прэзыдыюму", але на ўзор Ірану, і у Індыі пачаліся камуністычныя дэманстрацыі. Асабліва шмат крыві праліта ў Хайдэрабадзе, бо паліцыя не дала рады з дэманстрантамі й было пакліканае войска. У Хайдэрабадзе абвешчаны ваенны стан. Тымчасам, як быццам яны толькі й чакалі на выбух разруху, бальшавікі прыслалі нарэшце (відаць у падзяку за выкананьне загадаў) даўно абяцаную галодным індусам пшаніцу.

### ПЕРАГЛЯД ІМІГРАЦЫЙНАГА ЗАКОНУ

Прэзыдэнт Труман стварыў адмысловую камісію з 7-х асобаў дзеля перагляду іміграцыйнае палітыкі ЗША, якая, згодна із апошнім законам Мэк Кэррэна, стаўляе вялікія перашкоды новым эмігрантам у Амэрыку. Камісія мае абмяркаваць наступныя пытаньні: пераглядзець усе, што існуюць, законы аб іміграцыі, натуралізацыі ды дэпартацыі чужынцаў, разгледзець іміграцыйнае пытаньне з гледзішча эканамічнага й сацыяльнага, зрабіць неабходныя мерапрыемствы дзеля палёгкаў іміграцыі ў ЗША. Старшынёю камісіі вызначаны Пэрльман.

### НЯМЕЦКІЯ ПАЛОННЫЯ У СССР

Урад Заходняй Нямеччыны сьцьвердзіў у заяве, паданай у Задзіночаныя нацыі, што ў Саветах яшчэ да сяньня пакутуе 1.500.000 нямецкіх палонных. Бальшыня зь іх працуе ў канцлягерох, частка — ў Польшчы й Чэхаславаччыне. Аднак, бальшавікі цьвердзяць, што нямецкіх палонных у іх няма, усе яны даўно звольненыя. Асталіся, быццам, адно „ваенныя злачынцы".

### МАНЭУРЫ Ў БЭРЛІНЕ

Упяршыню пасьля канца вайны, амэрыканскія акупацыйныя войскі ў Бэрліне правялі 3-дзённыя манэўры... вулічных баёў.

### ЛЁС СЬВЯТАРОЎ У ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ

Днямі чэхаславацкі суд засудзіў на 15 год катаргі каталіцкага сьвятара Марсалека за „атручваньне школьнікаў заходнімі ідэямі".

## Кандыдаты у прэзыдэнты й савецкая думка

Саветы з вылучнаю ўвагай сочаць за прэзыдэнцкай кампаніяй у Амэрыцы. Ні Стывэнсон — кандыдат дэмакратаў, ні Айзэнгаўэр — кандыдат у прэзыдэнты ад рэспубліканскай партыі — бальшавіком не падабаюцца. Навет больш таго, — абедзьве гэтыя кандыдатуры выклікаюць з боку савецкае прэсы й савецкіх прадстаўнікоў адно нясупынную, злосную лаянку. Абодвы кандыдаты, на думку саветаў, нячэсныя, імкнуцца адно да асабістае ўдачы, сыплюць навокал манлівымі абяцанкамі... Прынцыпы, плятформы, партыйныя заданьні — ян маюць для іх вартасьці, яны гатовыя прадаць і іх, і сваіх выбаршчыкаў, гатовыя „зрабіць саюз із самым чортам", абы дапяць свае мэты. Асабліва ненавідзяць бальшавікі Айзэнгаўэра ў сувязі із апошняю ягонаю прамовай, у якой ён не хаваючыся назваў палітыку саветаў „хлусьліваю і хітраю". Газэта „Праўда", якая, здаецца, ўмее зьмяшаць з гразёй супраціўніка, не знаходзіць словаў, досыць моцных дзеля характарыстыкі Айзэнхаўэра й ягоных асьветчаньняў. Артыкул „Праўды" надрукаваны пад загалоўкам „Айзэнхаўэр выбіраецца у паход" і ймкнецца ўбіць у галаву савецкага грамадзяніна, быццам Айзэнхаўэр толькі й робіць, што „рыхтуецца да вайны проці савецкага народу", ды што ён і ёсьць галоўны „падпальшчык" новай вайны".

Колькі дзён таму прадстаўнік СССР у Задзіночаных Нацыях, выступаючы з трыбуны Рады Бясьпекі абліваў памыямі абодвух кандыдатаў у прэзыдэнты, а разам із імі, лаяў і Трумана, і ўсе ЗША. Але заходні сьвет ужо гэтаму ня дзівіцца. Савецкая лаянка трапляе ў пусьціню. Наадварот, кажны сяньня разумее, што чым больш саветы з нечае прычыны пеняцца, тым большую ролю можа гэты нехта згуляць у справе абароны сьвету перад савецкай агрэсіяй.

## Кітай у сталінскім павуціньні

Кітай — былая Нябесная Імпэрыя — вялізарная азыятыцкая краіна з больш, чымся 400 мільёнамі жыхарства. Калісьці, у глыбокай старадаўнасьці, адна з перадавых культурных дзяржаваў, Кітай ужо даўно згубіў сваё былое значаньне й стаўся каляніяльнай краінай, якую ў сваіх эканамічных ды палітычных інтарэсах выкарыстоўвалі розныя краіны й дзяржавы, у тым ліку Амэрыка, Ангельшчына й Царская Расея. Савецкія улады, ад самага пачатку свайго існаваньня, аддавалі Кітаю вялікую ўвагу, як краіне із вельмі добрай глебай пад разьвіцьцё камунізму.

Дарма, што „добрасуседзкія" ўмовы з нацыянальным урадам Чан-Кай-Шы, саветы не перасьцігалі таемна „муціць" цёмныя сілы Кітаю, тварыць камуністычныя арміі, разьдзьмухваць грамадзянскую вайну, слаць сюды грошы, агітатараў, ды інструктароў. Грамадзянская вайна й вайна з Японіяй канчальна зруйнавалі кітайскую дзяржаўнасьць, ператварылі Кітай у няшчасную, галодную, бяспраўную краіну, а значыцца у найлепшае для ўдалае бальшавіцкае прапаганды месца. Кітай пачаў камунізавацца. Дапамаглі яму ў гэтым, апрача самых камуністых, і Амэрыка з Ангельшчынай. Пасланы сюды амэрыканскім урадам генэрал Маршал ня толькі не абараніў Кітай перад камуністычнай небясьпекай, ня толькі не дапамог саюзьніку ЗША Чан-Кай-Шы, але наадварот, зажадаў ад яго „задзіночаньня із камуністымі Кітаю". Погляд Маршала падтрымлівала й Ангельшчына. Калі Чан-Кай-Шы не пагадзіўся на пагадненьне із камуністымі, і Вашынгтон, і Лёндан абурыліся на яго й адмовілі ў дапамозе ў найбольш крытычны для нацыянальнага Кітаю момант грамадзянскае вайны. Камуністыя, пад кіраўніцтвам выхаванага Масквою Мао-Це-Дуна, перамаглі, выгналі нацыянальны ўрад Чан-Кай-Шы, які прытуліўся на Фармозе, й пачалі „перавыхоўваць" Кітай паводле агульнага камуністычнага ўзору. Наіўныя палітычныя дзеячы Амэрыкі й Ангельшчыны бачылі ўсю гэтую работу, аднак, ня лічылі свае палітыкі памылкай, пацяшаючы сьвет, што Мао-Це-Дун, як „нацыяналісты" вось-вось пойдзе проці Сталіна, як зрабіў гэта ў Югаславіі Ціто. Аднак, гэта ня сталася й, ведама, ня станецца. Палітыкі Захаду навет і зусім спракудзіліся, асабліва Ангельшчына, якая навет прызнала камуністычны ўрад чырвонага Кітаю, згодна із сваім звычаем, „што гандляваць можна і з гатэнтотамі".

Тымчасам, Сталін імкнуўся усё шчыльней прыціснуць да муру свайго „сябру" Мао-Це-Дуна, а гэтым самым апанаваць на добрае і ягоны вялізарны Кітай. Гэта яму ўдалося. Два гады таму была падпісаная між СССР і Кітаем умова, згодна із якой Саветы пазычалі кітайцам 300 мільёнаў даляраў. Грошы гэтыя пайшлі, галоўным чынам, на вайну ў Карэі. Бо Кітай мусіць плаціць і за ўтрыманьне сваіх „дабраахвотнікаў", і за азбраеньне, танкі, артылерыю, самалёты, самаходы. Усё-ж гэтае, вылучаючы ўжо сваё собскае „гарматняе мяса", Кітай атрымлівае ад Савецкага Саюзу. Апрача ваенных выдаткаў, Кітай патрабуе безьлічы мільёнаў на індустрыялізацыю краіны. На гэтае таксама патрэбнае дарагое абсталяваньне, машыны, транспарт, а таксама й спэцыялістыя ды майстры, якіх у Кітаю блізу няма.

Усё гэта ізноў дае Масква і за усё ізноў плаціць Кітай. Такім чынам, грошы спрытных камуністычных гандляроў вяртаюцца да іх назад із вялічэзным працэнтам, а пазыка так і застаецца пазыкай. Цяпер у Маскве ізноў „гасьціць" дэлегацыя з Кітаю на чале із прэм'ерам ураду Чжоў-Эн-Лай. Справа ясная. Відаць, грошы выданыя, і Кітаю патрэбная новая пазыка, ці як прынята называць гэтую хітрую мэханіку — новая „дапамога". І ня дзіва. Вайна ў Карэі каштавала Пэкінскі ўрад столькі, колькі васьмёхгадовая вайна Кітаю з Японіяй. Не хапае ні танкаў, ні самалётаў, ні зброі. Няма сумліву, што сябра Сталін і на гэты раз паратуе кітайцаў, дасьць новыя мільёны... каб магчы стаўляць Кітаю ўмовы, хай і вельмі некарысныя для кітайцаў, ды затое дагодныя Сталіну й Маскве.

Кітай аплецены бальшавіцкім павуціньнем. Яно спавівае яго ўсьцяж шчыльней. А ў рагу сядзіць ужо і сочыць за ахвярай вялізарны чырвоны павук, чакаючы адно моманту рынуцца й задушыць сваю ахвяру.

## ГАНДЛЮЮЦЬ БЕЛАРУСЯЙ

Вольны сьвет па адным баку й камуністычны таталітарызм па іншым — рыхтуюцца да апошняе збройнае сутычкі між сабою. Карэйская вайна, якая цягнецца ўжо другі год, — нішто іншае, як толькі спроба сілаў, уступ да таго вялізарнага збройнага змаганьня, якое можа разгарэцца кажнае часіны. Абедзьве стараны гуртуюць свае рады. Гэткае палажэньне й гэткі час вельмі спрыяюць рознага гатунку авантурыстым, што прапануюць свае паслугі зацікаўленым у будучай вайне дзейнікам, навязваюцца ім, як памагатары й „саюзьнікі", прапануюць сваё супрацоўніцтва, свой энтузыязм „ісьці на фронт у першых радох" і г. д.

Тыповым прыкладам гэтага была славутая адозва вядомага ўсім Астроўскага, які „урачыста й самаахвярна" заклікаў летась беларускіх вайскоўцаў „усіх, як адзін" ісьці на карэйскі фронт. Сяньня, праўда, ці адзін малады беларус змагаецца ужо ў Карэі, ў радох саюзнае арміі, але зусім ня з ласкі Астроўскага. Наадварот, ніхто з беларускіх вайскоўцаў, ды й ні адзін беларус наагул, не ўзялі паважна гэтую славутую адозву, бо добра ведалі ўсю непаважнасьць Астроўскага, як дзеяча й чалавека.

Яшчэ больш тыповы прыклад авантурызму разыгрываецца на нашых вачох сяньня.

Як падае газэта „Бацькаўшчына" ад 24-га жніўня 1952 г. нумар 34-ты, Астроўскі, не зьбянтэжаны мінулаю няўдачай, склаў на рукі прадстаўніка Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў СССР на Эўропу заяву ад імя беларускае эміграцыі, якая быццам ідзе за ім, дзе ён запэўняе камітэт у сваўй гатоўнасьці БЕЗ УСЯЛЯКІХ ЗАСЬЦЯРОГАЎ увайсьці ў Камітэт Вызваленьня Народаў СССР. У гэтым самым ён запэўніў і паасобных лідэраў розных расейскіх арганізацыяў і партыяў, адмыслова й яшчэ раз падкрасьляючы гэтую сваю беззасьцярожнасьць што да будучага лёсу Беларусі пасьля перамогі над СССР.

Ці-ж можа скласьці гэткую заяву чалавек ідэі, якому баліць лёс беларускага народу, які імкнецца змагацца за яго і сяньня й заўтра? Пэўне-ж, не.

Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчаная актам 25-га сакавіка 1918 году, была здабытая ў выніку даўгога, цяжкога змаганьня найбольш наважаных і патрыятычных сыноў беларускага народу з расейскім акупантам. Яна каштавала безьлічы балючых ахвяраў, цяжкіх пакутаў сотняў тысячаў беларускіх сыноў, вешаных Мураўёвым, ссыланых у Сыбір на мукі й сьмерць.

Для кажнага беларуса, які мае хоць іскрачку нацыянальнага сумленьня, незалежнасьць Беларусі — гэта усё, увесь сэнс ягонага жыцьця, ягоная адзіная мэта. І нішто так не баліць беларуса, як калі розныя авантурыстыя тыпу Астроўскага гандлююць Беларусяй, маючы на ўвеце або асабістую матар'яльную карысьць, або задаваленьне свайго авантурыстычнага поцягу.

Уся беларуская эміграцыя вельмі добра разумее патрэбу наважанага, дружнага змаганьня з сяньнішнім панявольнікам нашага краю — бальшавізмам. Змаганьне гэтае павінна весьціся нясупынна, ці шляхам г. зв. халоднае вайны — прапаганды, ці, калі прыйдзе на гэта час — із зброяй у рукох. Месца беларускае эміграцыі — у першых радох гэтага змаганьня.

Няма таксама ні для каго з нас сумліву, што, як халодная вайна, так і збройнае змаганьне будзе багацейшае ў перамогі, калі мы будзем змагацца, задзіночыўшыся із іншымі нацыянальнасьцямі,

# І на Беларусі пачауся школьны год

**Новы школьны год працягвае маскалізацыю Беларусі. — Гуманістычная асьвета выгнаная, заданьне бальшавіцкае школы — гадаваць вузкіх спэцыялістых-работаў. — Галодныя стыпэндыі. — Тэхнікумы грамадзкага харчаваньня й культуры. — Здабыцьцё асьветы узалежненае ад прыхільнасьці партыйцаў.**

У абвестках навучальных установаў, зьмяшчаных у газэтах акупаванае Беларусі, вельмі шмат месца аддаецца г. зв. паводле бальшавіцкае тэрміналёгіі **тэхнікумам.** Здаецца, кірунак школьнае палітыкі маскоўскага бальшавізму мае на ўвеце зьнішчэньне агульнае сярэдняе, гімназіяльнае асьветы, замяняючы яе шмат вузейшай прафэсыйнай асьветай. Уражаньне гэтае падмацоўваецца весткамі, што там-сям сярэднія школы тыпу гімназіяў навет і зусім ліквідуюцца, а замест іх адчыняюцца 3-4-гадовыя тэхнікумы або розныя іншыя „вучылішчы".

Аналізуючы вымаганьні, якія маскоўска-бальшавіцкі акупант стаўляе паняволенаму беларускаму народу, — у гэтым няма дзіва. Акупанту непатрэбныя людзі із глыбокай, агульнай, усебаковай і аб'ектыўнай гуманістычнай навукай, із здольнасьцяй параўноўваць, самастойна разважаць, ды дзейнічаць. Усемагутнаму апарату панявольнікаў беларускага народу патрэбныя адно вузкія фахоўцы ў розных тэхнічных галінах, чые здольнасьці думаньня й разважаньня павінны быць нагэтулькі няразьвітыя, каб яны маглі успрыймаць як найлепшую праўду ўсю маскоўска-бальшавіцкую прапаганду у ўсіх ейных найдурнейшых цьверджаньнях, шчыра верачы ў тым ліку і ў „вынаходы" ды „адкрыцьці" расейскіх „геніяў" у ўсіх галінах веды. Нашым панявольнікам людзі непатрэбныя: іхны ідэал грамадзяніна — гэта чалавек-робат.

Трэба адзначыць, што сярэднія школы ўсюдых 4-хгадовыя. Пачатковыя школы агулам бяручы — 7-гадовыя, але побач із імі сустракаецца й шмат 4-годкаў, асабліва на вёсцы, у калгасах.

У абвестках аб сярэдніх школах БССР не ўспамінаецца ні аб стыпэндыях, ні аб звальненьні ад аплаты за навуку. Дарма, што ўся вялізарная хлусьлівая прапаганда аб вялікіх магчымасьцях навукі ў акупаванай Беларусі, маскоўскі панявольнік, па праўдзе, ня здольны даць беларускаму дзіцяці навет пачатковую сямёх-гадовую асьвету, не гаворачы ўжо аб вышэйшай. А таму, што беларускія сяляне ці работнікі не зарабляюць навет жыцьцёвага мінімуму, каб утрымаць сям'ю з колькімі дзецьмі, дык дзеці мусяць пачынаць працу на кавалак хлеба яшчэ ў школьным веку. Адзінае, што ў гэтай справе робіць дзяржава — гэта адчыненьне завочных аддзелаў тэхнікумаў з курсам пачатковае школы. У гэтыя завочныя аддзелы прыймаюцца тыя, што скончылі пятую клясу. Навука ўсюдых, пачынаючы ад восьмае клясы, платная 100 рублёў у год. Ніякіх палёгкаў ці стыпэндыяў не прадбачаецца.

Асаблівая ўвага прысьвячаецца пашыранаму, ужо ўспамінанаму вышэй тыпу навучальнае савецкае ўстановы — бальшавіцкаму тэхнікуму. Пад гэтым назовам спатыкаюцца тэхнікумы ў вузейшым сэнсе слова — розныя фаховыя тэхнічныя, а таксама й сельска-гаспадарчыя ды камэрцыйныя школы й падобныя да іх школы для падрыхтоўкі ніжэйшых мэдычных працаўнікоў, або пэдагагічныя вучылішчы, што рыхтуюць настаўнікаў для малодшых клясаў народнае школы ці кіраўнікоў піянерамі. Тэхнікумы гэтыя не ўваходзяць у сыстэму агульнае асьветы, хоць пасьля сканчэньня некаторых зь іх даецца права паступленьня ў вышэйшыя навуковыя ўстановы. Сьветчыць аб гэтым факт, што іх адчыняюць і ўтрымліваюць асобныя міністэрствы — лёгкае прамысловасьці, харчавое, лясное, будаўнічых матар'ялаў, сельска-гаспадарчае й інш. прамысловасьці, якія рупяцца аб падрыхтоўцы фахоўцаў дзеля сваіх прадпрыемстваў.

Гэтыя тэхнікумы маюць свае стандартныя правілы прыйма й навукі. У тэхнікумы прыймаюцца хлапцы й дзяўчаты (а таксама й дарослыя) у веку ад 14-цёх да 30-цёх год. Вымагаецца папярэдняе сканчэньне сямігодкі. Выдатнікі, г. зн. тыя, што скончылі сямігодкі із адзнакамі 4 ці 5, прыймаюцца бяз іспытаў. Рэшта павінна складаць іспыты з канстытуцыі або гісторыі СССР, з расейскае, і толькі ў нешматлікіх выпадках і з беларускае мовы, ды з матэматыкі (таксама ня ўсюдых). Пры паступленьні абавязкава вымагаецца пасьветчаньне аб асьвеце, аб народжаньні, вайсковы білет, прыпіснoе пасьветчаньне ды іншыя паперы, якія сьветчылі-б аб сацыяльным паходжаньні бацькоў. Па гэтых паперах улады ўжо ад пачатку даведваюцца аб палітычнай надзейнасьці кандыдатаў, а разам з тым, маюць магчымасьць недапусьціць да навукі тых, якім прызначаная паводле іншых пляноў бальшавіцкіх акупантаў, нявольніцкая праца ў калгасе, ці што яшчэ. У тыя тэхнікумы, што падрыхтоўваюць тэхнічныя працоўныя сілы для земляробства, прыймаюцца, аднак, побач зь іншымі, і дзеці калгасьнікаў, але патрабуецца даведка ад мясцовых установаў або старшыні калгасу аб дазволе паступіць у навучальную ўстанову.

Вучням гэткіх тэхнікумаў дзяржава плаціць стыпэндыі, згодна із прынятым скрозь па ўсім савецкім саюзе правілам, што дужэйшы дастае больш ад слабейшага, чаго зрэшты, бальшавікі пільнуюцца і ў штодзённым жыцьці, а навет і ў сваіх канцэнтрацыйных лягерох. Стыпэндыі дастаюць блізу вылучна толькі „выдатнікі" г. ё. тыя вучні, якія маюць адзнакі ня ніжэй 4. Стыпэндыі складаюцца з 140-200 рублёў, пры чым найлепшыя вучні дастаюць яшчэ часам 25% дадатку.

Зразумела, параўноўваючы гэтыя грошы із цэнамі ў БССР на харчы й ведаючы, што селянін ня можа зарабіць навет на больш-менш людзкое існаваньне, не гаворачы ўжо аб ашчаднасьцях на навуку дзяцей, дык ня цяжка пераканацца, што гэтыя галодныя стыпэндыі ня могуць забясьпечыць вучню навет мінімальнае харачаваньне, зусім не ўспамінаючы аб іншых патрэбах. Мала дапамагае й тое, што пры бальшыні тэхнікумаў існуюць інтэрнаты ды сталоўкі.

І атрымоўваецца, што сярэднюю асьвету могуць сяньня атрымаць на Беларусі адно дзеці вышэйшых савецкіх урадаўцаў ці вышэйшых партыйцаў. Яны-ж із малымі выняткамі — усе чужынцы, чым і тлумачыцца абавязкавыя пры паступленьні у школы іспыты з расейскае мовы, а блізу нідзе — беларускае. Так дзеці чужынцаў-панявольнікаў набываюць сярэднюю, а тады й вышэйшую асьвету ў школах БССР, тады як для нашае беларускае моладзі яна — адно прыгожы сон. Калі-ж каму з беларускіх юнакоў і пашэньціць атрымаць гэтую асьвету, дык купляецца яна дарагой цаной недаяданьня, празьмернае працы й нялюдзкіх намаганьняў асабліва настойлівых адзінкаў. Гэтым тлумачыцца й тое, што сяньня ў Беларусі вельмі пашыраная хвароба сухотаў, стаўшыся запраўды „народнай хваробаю", „рэчай, даступнай кажнаму", як з гаркой гіроніяй зазначыўшы быў адзін з юнакоў, што вырваўся пару год таму на захад із „сталінскага раю".

**М. Кургановіч**

(Канец у наступным нумары)



Уваход у Базыльлянскія Муры ў Вільні, дзе на працягу колькіх год месьцілася закладзеная ў 1919 годзе нябожчыкам Іванам Луцкевічам, ПЕРШАЯ ВІЛЕНСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ, якая дала нашаму грамадзтву ці мала навукоўцаў, дзеячоў ды культурных працаўнікоў.

# Як Менскія настаунікі пазналіся на савецкім турызьме

Нядаўна ў газэце „Праўда" была надрукаваная карэспандэнцыя менскага настаўніка П. Макарэвіча, дзе ён дзяліўся із чытачамі сваім „засмучаньнем" з прычыны „пастаноўкі працы ў арганізацыі Савецкі Турыст".

Пазнаёміўшыся із шмат-абяцальнаю, шырокаю прапагандаю гэтае ўстановы з савецкае прэсы й радыя і паверыўшы ёй, група менскіх настаўнікаў наважыла наведаць гэтым летам Прыбалтыку й суседнія із ёю расейскія гарады. Заплацілі грошы й паехалі. Аднак, прыехаўшы у Таллін, сталіцу Эстоніі, адкуль „Савецкі Турыст" меўся, згодна із плянам экскурсіі, павезьці турыстых зьведваць усе прыбалцкія рэспублікі, настаўнікі сустрэліся із першай няўдачай. Яны на дзесяць дзён спыніліся ў Талліне, бо на турыстычнай базе ня было транспарту. Адзіны аўтабус гэтае базы або ўсьцяж рамантаваўся, або мусіў вазіць прадукты для адміністрацыі базы (яны-ж таксама есьці хочуць). Заместа абяцяных „Турыстым" экскурсыяў па краіне, настаўнікі былі прымушаныя „загараць" у гарачыні гарадзкіх муроў, што яны маглі ані ня горай рабіць і ў сябе ў Менску, ды напэўна за шмат танейшыя грошы. У рэшце рэштаў, не дачакаўшыся дапамогі ад базы, турыстыя наважылі дзейнічаць на собскую руку. Нанялі нейдзе самаход і бяз турысцкіх правадыроў, саматужна, наведалі Вільню, Рыгу, Тарту. Але ўсе гістарычныя помнікі гэтых местаў, якімі яны, як настаўнікі, асабліва цікавіліся, засталіся для іх непазнанымі, бо ніхто ня мог ім аб іх нічога расказаць. Мянчукі зьвярталіся й да савецкіх арганізацыяў, і ў справачныя бюры, а нарэшце й проста да паасобных жыхароў, ды нічога не дапялі. Урадавыя дзейнікі не маглі ці не хацелі ім дапамагчы, а жыхары, што трапілі проці свае волі ў савецкі рай, баяліся прамовіць слова, асабліва, што да гістарычнае мінуласьці ці помнікаў сваіх краінаў, каб ня трапіць, куды ўжо трапіла бальшыня іхных суродзічаў. Навет і ў савецкім Пскове турыстыя ня мелі ўдачы. Пскоўскі музэй, напр. яны ледзь-лёдзь адшукалі, аб ім пскоўскія жыхары нат ня чулі. Калі-ж адшукалі, дык адно пацалавалі клямку, бо музэй быў зачынены дзеля рамонту, дарма што турысцкі сэзон быў у поўні. Загадчык музэю, савецкі навуковец, не здагадаўся зрабіць рамонт узімку.

Гэтак няўдалыя турыстыя — менскія настаўнікі змарнавалі свой адпачынак. Але яны напэўна не змарнавалі аднаго: нагоды яшчэ раз пераканацца ў праўдзе й вартасьці савецкае прапаганды.

## ЦІКАВАЕ ПАРАЎНАНЬНЕ

Саветы крычаць на ўвесь сьвет, пахваляючыся сваймі камуністычнымі дасягненьнямі. Калі ім верыць, дык нідзе на сьвеце людзям так добра не жывецца, як у іх. Тут і вольна дыхаецца, тут і свабода, і „клопаты партыі і ўраду", і абніжэньне цэнаў на ўсё неабходнае й г. д., адным словам „рай"!

Наадварот, у „капіталістычных" краінах, паводле савецкае прапаганды, асабліва-ж у краіне „імпэрыялістых і падпальшчыкаў" — ЗША, жыцьцё вельмі цяжкое і працоўныя жывуць тут як найгоршыя нявольнікі. Пануе прыгнёт, „зьверская" эксплёатацыя, а цэны на неабходныя рэчы гэткія высокія, што амэрыканцы, апрача, вядома „эксплёататараў-фабрыкантаў", прымушаныя галадаваць. Гэтак намагаюцца ўгаварыць сьвету бальшавікі. А як рэчы маюцца папраўдзе, адразу пабачыць кажны, хто параўнуе хай адно цэны на еміну й заработную плату савецкага працоўнага з простым амэрыканскім працоўным.

У Савецкім Саюзе, каб купіць газэту, працоўны мусіць аддаць аплату 6-цёх мінутаў працоўнага часу, за пачок цыгарэтаў — аплату за адну гадзіну й 25 мінутаў. За два фунты мяса — заработак за 8 гадз. і 40 мінутаў працы. На радыё-апарат савецкі працоўны мусіць працаваць ажно 62 дні й 7 гадз. Каб купіць ложак — 20 дзён і 6 гадз. На панчохі

(Канец на 4 бал.)

тары! Загуба таленту паэты — завецца ў іх „росквітам", трагэдыя ягонага жыцьця й сьмерць — выдаюцца за „шчасьце паэты"...

Нам тут, на эміграцыі, ўсё гэта добра зразумелае, шкада толькі, што там, за заслонаю, знойдуцца, можа, людзі, што, начытаўшыся Мазальковых і нагледзеўшыся „Шчасьцяў паэтаў", — павераць у сяброўства савецкае ўлады з Купалаю.

Праўда, ёсьць, шчыра кажучы, і тут людзі, што паважна дакараюць Купале ягонай „савецкасьцяй" ды імкнуцца абнізіць ягоную ролю ў беларускай паэзіі наагул. Дык спынюся крыху над гэтым, хай ніжэйпаданае й ня зусім мо' вяжацца із тэмаю маіх успамінаў.

Усе, хто ведаюць савецкія ўмовы зразумеюць, што пісьменьнік, паэта, мастак, музыка ў СССР ня можа ня браць, накіданыя яму сілком, савецкія тэмы, ці ня пісаць зусім, каб не загубіць жыцьцё. У ўсім СССР ня знойдзецца ні воднага хто-б мог рабіць інакш. Пісаў савецкія вершы й Купала. Але як? Крытыка, навет, і савецкая, ці раз дакарала Купалу за няшчырасьць, несамастойнасьць ягоных савецкіх вершаў. Раўнуючы вершы Купалы, пісаныя ў да-савецкі пэрыяд із ягонымі савецкімі творамі, кажнаму кідаецца ў вочы, што апошнія вершы слабыя, вымучаныя, а не натхнёныя, як калісьці. Аднак, і паміж савецкімі вершамі Купалы (праўда, іх зусім мала), ёсьць запраўды паэтычныя й мастацкія рэчы. Чым гэта тлумачыцца? На маю думку, тут колькі прычынаў.

Купала, перш за ўсё, быў паэтам таленавітым, песьняром з Божае ласкі, працэс паэтычнае творчасьці быў у яго ў крыві. Ён быў таксама прафэсыйным паэтам, а не аматарам. Усё гэта не магло ня мець уплыву на тое, што Купала быў прымушаны пісаць. Па другое, і гэта, думаю, важнейшае, хай дагэтуль і недасьледванае пытаньне, — Купала, змушаны жыць у панурай савецкай запраўднасьці, уцякаў часта да краіны **ІЛЬЛЮЗОРНАСЬЦІ,** уяўнасьці. Ня толькі што ляяльны, але наважана варожы ў душы да савецкае ўлады, ён мусіў чымсьці жыць, дыхаць. Калі перад Купалаю ўзьнікалі, накіданыя яму тэмы САВЕЦКАЕ бацькаўшчыны, САВЕЦКАЕ моладзі, дык слова „савецкае" паступова занікала ў ягонай фантазыі й заставалася паняцьце тае бацькаўшчыны, тае моладзі, што былі для яго сваймі, роднымі, якія ён адно патрапіў уявіць сабе. Ілюзія, уяўнасьць рэчаіснасьці натхняла тады Купалавую паэтычную ліру. Яна-ж давала яму моц цярплівасьці, трываньня, сілу да жыцьця й тыя драбочкі чалавечае радасьці, ўцехі, без якіх немагчыма жыць чалавеку, а тым балей мастаку. Гэтак сама, адно пры дапамозе ілюзорнасьці можа жыць засуджаны на вечнае паняволеньне бядак, ці замкнёная за кратамі ахвяра. І яшчэ адно: ці можна лічыць Купалу савецкім, калі паэтам і нацыянальным героем ён стаўся гады перад савецкім паняволеньнем? Гады перад тым, як бальшавікі апанавалі Купалавую радзіму й народ, ён ужо сказаў усё свае найбольшае й найпатрабнейшае, і сказаў моцна, грымотна, як ніхто. Ці можна лічыць Купалу савецкім, калі самыя саветы блізу да 1939 году, значыцца, якія пару год да ягонае сьмерці, лічылі Купалу буржуазным нацыяналістым, ці ў лепшым выпадку тым, што трапіўшы быў пад іхны уплыў, хто апынуўшыся быў у іхным палоне?

Не, не пасуе да Купалы назва „савецкі паэта". Ён быў і заўсёды будзе беларускім, народным, нацыянальным песьняром-прарокам.

Яшчэ менш маюць праўду тыя, што хацелі-б адсунуць Купалу, паставіўшы перад ім іншых паэтаў, асабліва маладзейшых, надаючы ім не гістарычнае, а суб'ектыўнае значаньне.

У беларускай літаратуры ёсьць шмат іменаў, што займаюць вельмі пачэснае месца. Была й вельмі таленавітая моладзь, што гарэла адданасьцю Бацькаўшчыне й вагнём запраўднага мастацкага натхненьня. Аднак, кажная гісторыя мае й сваю храналёгію. Ня можна чыны Аляксандра Македонскага прыпісваць чалавеку, што жыў на стагодзьдзе пазьней за яго, хай яны былі гэткія-ж вялікія, як Аляксандравыя. Купала ўжо быў сказаўшы сваё вялікае слова, калі творчасьць моладзі адно нараджалася. Моладзь гэтая магла быць і была толькі ягонымі пасьлядоўнікамі, а ніяк не прадвесьнікамі, або пачынальнікамі, тым балей, што таленавітасьць бясспрэчна выдатных асобных прадстаўнікоў беларускае пясьнярскае моладзі расьцьвітала ў пару, калі Купалу ўжо, і зусім справядліва, называлі прарокам беларускага адраджэньня.

Лёс маладых паэтаў быў жудасны. Бальшыня зь іх загінула ў часе росту й росквіту. Няма сумліву, што зь іх маглі-б вырасьці нязвычайныя таленты, каб лёс быў крыху ласкавейшы й для іх і для ўсяго нашага беларускага народу наагул. Купале, аднак, было суджанае задоўга да сьмерці зьдзейсьніць тое, чаго мог жадаць ад яго беларускі народ. Купала ўхапіў стацца тым, каго гэты народ гэтак роспачна патрабаваў — змагаром, прарокам, ідэйным правадыром, нацыянальным героем.

Перад Купалаю мы ўсе ў вялікім даўгу. Усе мы яшчэ за мала ведаем і разумеем Купалу і як чалавека, і як творцу. Некаторыя ягоныя рысы робяцца зразумелымі толькі сяньня, а ёсьць пэўне й гэткія, што яшчэ толькі будуць зразумелымі.

Купала — ўсьцяж поўная скарбніца нацыянальнага багацьця, вартая належнага пазнаньня й вывучэньня. Постаць Купалы нагэтульки магутная, што нат і фізычная сьмерць не патрапіць аддаліць, схаваць ягоны вобраз перад вачмі беларускага народу, які вінен яму адно — незабыўныя памяць, пашану й гонар.

І прыйдзе час, калі верныя Купалавай памяці нашчадкі перанясуць ягоную труну, абы-як, у посьпеху прысыпаную ворагамі чужою, няпрыветнаю зямлёю, на Бацькаўшчыну, якую так шчыра і аддана кахаў і якой прысьвяціў столькі песьняў Купала. Абедзьве-ж ягоныя вялікія годчасьці — чалавека й паэты на вякі захавае ў сваіх сэрцах удзячны беларускі народ. Я-ж веру, што цень Купалы стаіць і будзе вечна стаяць на варце вольнай і шчасьлівай Бацькаўшчыны-Беларусі.

(канец)

